# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 41 (1285) ГОД XXV БЕЛАСТОК 12 КАСТРЫЧНІКА 1980 г. ЦАНА 2 ЗЛ.

## НЕЗАБЫЎНЫЯ хвіліны

Двухпавярховы будынак Бельскага беларускага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча купаецца ў промнях вераснёўскага сонца. Быццам школьнікі на заняткі, прыбываюць у яго сцены маладзейшыя і старэйшыя людзі і напаўняюць яго нязвыклым, нештодзённым гоманам, сардэчнасцю і воклічамі. „Чэсць! Як жывеш?! Столькі год цябе не бачыў! Здароў, мой дружа!“ Паціскаюць яны рукі, абдымаюцца, размаўляюць неяк асабліва, па-святочнаму, па-сямейнаму, як брат з братам, як сястра з сястрою, якія доўга не бачыліся. І школа, якая быццам маці благаславіла сваіх дзяцей у жыццёвую дарогу, сёння чулліва спатыкае іх на сямейным свяце — II з'ездзе сваіх выпускнікоў, якія з'ехаліся з усіх канцоў нашай краіны.

І так, як калісьці, яны ў вялікай спартыўнай зале, у якой распачалася святочная, афіцыйная частка з'езда. Распачалася дзяржаўным гімнам і ўняседнем школьнага сцяга, на якім відаць

(Працяг на стар. 4)



*Намеснік міністра асветы і выхавання генерал Гушча ўручае дырэктару ліцэя Аляксею Карпюку найвышэйшую ўзнагароду міністэрства — памятны медаль Камісіі нацыянальнай адукацыі.*



*Удзельнікі з'езда.*

## З ДУМКАЙ АБ РАБОЧЫХ

Аб чыгуначных праблемах пісалася многа ў „Ніве“. Краналіся справы безупыннага спазнення цягнікоў, беспарадку на станцыях і г.д. Асаблівую ўвагу звярталі мы на неправідловае курсаванне рабочых цягнікоў. Такім чынам людзі, рабочыя і школьнікі, марнавалі многа часу, бо цягнік прыходзіў намнога раней, чым пачыналася праца або школа, і ад'язджаў праз некалькі гадзін пасля працы.

У адным з адказаў для „Нівы“ Цэнтральная дырэкцыя ПКП паведаміла рэдакцыі, што ў верасні яны падрыхтуюць сустрэчу з удзелам рабочых калектываў Гайнаўкі, Бельска, Чаромхі, Семяноўкі і Белавежы, а таксама з удзелам прадстаўнікоў „Нівы“. На сустрэчы гэтай супольна разважыцца справа новага расписання цягнікоў.

І вось 9 верасня паехаў я ад імя „Нівы“ на такую сустрэчу ў Гайнаўцы. Хачу сказаць, што былі запрошаны на яе начальнікі чыгуначных станцый з нашай тэрыторыі, і начальнік гмін і кіраўніцтва большых прадпрыемстваў рабочых цэнтраў. Спадзяваўся я сустрэць натоўп зацікаўленых, бо ж справа важная для ўсіх. У сапраўднасці прыехала ўсяго 15 чалавек. Найбольш здзіўляе факт, што ў сустрэчы не ўдзельнічалі начальнікі гмін.

Адкрываючы рабочую нараду, бо так гэтую сустрэчу трэба назваць, намеснік начальніка Упраўлення руху ЦДОКП у Варшаве Рышард Дробік сказаў: „Тое, што мы сёння тут сустрэліся, гэта ў асноўным заслуга рэдакцыі „Ніва“. Прагледзеўшы грунтоўна скаргі чытачоў, мы прыйшлі да вываду, што сапраўды нешта празявалі ў сваім расписанні цягнікоў. Хочам каб у будучыні людзі не трацілі дарэмна часу на даезды. Аднак датычыць гэта толькі давозу і адвозу рабочых на працу і вучняў у школы. Усім іншым чыгунка не можа дагадзіць“.

І пачалася прымерка. Начальнік Дробік прыехаў у Гайнаўку са штабам працаўнікоў, адказных за нашу тэрыторыю. На дошцы былі напісаны гадзіны ад'езду і прыезду цягнікоў на кожнай станцыі. І прадстаўнік чыгункі звяртаўся з пытаннямі да начальнікаў паасобных станцый, на якую гадзіну трэба ім давезці людзей на працу. Дыскусія была сапраўды шчырая і праходзіла ў рабочай атмасферы. Пасля кожнага варыянта прадстаўнікі чыгункі канкрэтна рашалі, якія маюць быць гадзіны курсавання кожнага цягніка. Выявілася, што, каб дагадзіць падарожным у акрузе Семяноўка-Гайнаўка-Чаромха-Бельск, трэба ўвесці новых восем цягнікоў. І начальнік Дробік абяцаў, што гэткая развязка магчымая. Спадзяюся, гаварыў начальнік, што наша сённяшняя сустрэча прынясе канкрэтныя вынікі. Мы ж таго сюды і прыехалі. Праз год у гэтым жа часе можам яшчэ раз сустрэцца і абмеркаваць вынікі нашай працы.

У дыскусіі нарадзілася думка, каб у летнім сезоне з Гайнаўкі ў Белавежу ўвесці курсаванне цягніка ў роўных адрэзках часу, напрыклад: а 8, 10, 12,

(Працяг на стар. 5)

## Новыя вершы

* * *

Помню, мяне разбудзілі
Нёман — бруістаю скрыпкай,
Вецер — гармонікам гулкім,
Месяц — няўрымслівым бубнам.
Нават і сам не заўважыў,
Як я да іх далучыўся
І ўсё жыццё валачуся
З імі па родных дарогах.

Калі пачуеце часам
Гул на вясновай дарозе,
Знайце: ідуць валачобнікі —
Нёман з бруістаю скрыпкай,
Вецер з гармонікам гулкім,
Месяц з няўрымслівым бубнам
І я.

* * *

Аднойчы мяне
Асяніла думка,
Што, калі пачаць адганяць
Назад стрэлкі гадзінніка,
Можна зноў вярнуцца
У юнацтва.

Бяда толькі:
Ні мае блізкія,
Ні члены камісіі вынаходніцтваў,
Ні дактары
У гэта не вераць,
Як часта не верылі
У многія геніяльныя адкрыцці.

* * *

Спадзяваўся сустрэцца
З сябрамі, з сасной,
Што бусланкай шумела
Ля хаты маёй.

Ды з блакадных гадоў
Мала хто ацалеў
З маіх аднасяльчан,
З равеснікаў-дрэў.

На дарогах-шляхах —
Курганы, курганы,
А над імі стаяць
Абеліскі вайны.

Як шкада, што на іх
Сярод прозвішч байцоў
Не знайшоў я
Знаёмых сасны і буслоў.

Толькі парастак з яе
Узняўся, як парасон.
О, каб новых буслоў
Дачакаўся і ён!

* * *

У шчасці
Нават блізкіх
Хутчэй забываюць
Адышоўшых.

І калі ты
Нікому не жадаеш
Гора,
Павінен радавацца,
Што і цябе забудуць.

* * *

Я цябе сягоння стрэціў.
А чаму, скажы, не ўчора,
А яшчэ лепш — пазаўчора,
Калі поўдзень мой быў свецел.

Калі мне зязюлі часта
Шчодрыя гады дарылі,
А цыганкі варажылі
Пра нязведанае шчасце.

Калі за маім застоллем
Было меней песень сумных,
А бясед сяброўскіх шумных,
Звонкіх чарак было болей.

І ўсё ж рад я гэтай стрэчы,
Што ўспаміны абудзіла,
Веснім сонцам азарыла
Мой асенні позні вечар.

* * *

Як шкада,
Што страхавыя ўстановы,
Якія страхуюць ад пажару,
Ад зладзеяў
І іншых розных выпадкаў, —
Не страхуюць
Ад няшчаслівай любові,
Ад якой страты,
Мусіць, самыя большыя.

* * *

Той, хто сказаў,
Што жыццё пражыць —
Не поле перайсці,
Відаць, ніколі
Не пераходзіў
Поля замініраванага.

**Максім Танк**

# VI ПЛЕНУМ ЦК ПАРП

У днях 4—6 б.м. працягваў працу VI Пленум ЦК ПАРП. З дакладам Палітбюро на тэму „Палітычнае становішча краіны і цяперашнія заданні партыі" выступіў І сакратар ЦК Станіслаў Каня. У спрэчках выступіла 70 аратараў. Пленум адобрыў даклад Палітбюро і вызначыў задачы партыі на перыяд падрыхтоўкі да IX з'езда (надзвычайнага).

Пленум увёў змены ў асабовым саставе ЦК. Пленум вывеў з саставу Палітбюро З. Грудня (з увагі на стан здароўя) і з сакратарыята А. Жабінскага (стаў І сакратаром ВК у Катавіцах). Пленум выбраў сакратаром ЦК К. Барцікоўскага, кандыдатамі ў члены Палітбюро В. Крука, Р. Нэя, членам сакратарыята С. Габрыельскага. Пленум пашырыў састаў Цэнтральнай камісіі партыйнага кантролю.

У заключэнне на Пленуме выступіў С. Каня.

### *КАЛЯНДАР*

**220 гадоў назад**
17.10.1760 нар. А. К. Сен-Сімон, французскі філосаф, адзін з заснавальнікаў утапійнага сацыялізма.

**140 гадоў назад**
14.10.1840 нар. Д. Пісараў, рускі публіцыст, літаратурны крытык, філосаф.

**65 гадоў назад**
14.10.1915 нар. У. Краўчанка, беларускі савецкі пісьменнік.

**60 гадоў назад**
17.10.1920 пам. Дж. Рыд, амерыканскі пісьменнік і публіцыст, аўтар кнігі „10 дзён, якія скаланулі свет".

## ЧЫТАЧ!

**Ці Вы ўжо выпісалі „Ніву" на 1981 год? Выпісалі. Дзякуем. І сваім знаёмым за граніцу таксама? Цудоўна! Тады прыпомніце, калі ласка, суседзям, што яшчэ марудзяць, наш надзёны лозунг: толькі скнара і лянівы не выпісываюць „Нівы"!**

**А ўмовы падпіскі ў рэдакцыйнай „стопцы".**




**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**
**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca: RSW „Prasa-Książka-Ruch" Kombinat Wydawniczo-Kolportażowy w Białymstoku.
Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.
Ogłoszenia przyjmuje: Biuro Reklam i Ogłoszeń ul. Wesołowskiego 1, 15-950 Białystok, tel. 232-41 w. 278, oraz wszystkie biura ogłoszeń RSW „Prasa-Książka-Ruch" na terenie całego kraju. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności. Prenumeratę przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele w terminach: do dnia 25 listopada na I kwartał, I półrocze i na cały rok następny; do dnia 10 poprzedzającego okres prenumeraty na pozostałe okresy roku bieżącego. Cena prenumeraty: kwartalna 26 zł, półroczna 52 zł, roczna 104 zł. Jednostki gospodarki uspołecznionej, organizacje społeczne zamawiają prenumeratę w miejscowych Oddziałach RSW „Prasa-Książka-Ruch", w miejscowościach zaś, w których nie ma Oddziałów, w urzędach pocztowych. Czytelnicy indywidualni opłacają prenumeratę wyłącznie w urzędach pocztowych i u doręczycieli. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie, nr 1153-201045-139-11; prenumerata ta jest droższa od prenumeraty krajowej o 50% dla zleceniodawców indywidualnych i o 100% dla zlecających instytucji i zakładów pracy.
„Niwa" — PLISSN-0546-1960. Nr indeksu 36671.
Zam. 1506. Nakład 7.800 I-2




*І добрае ж „урачыстае пітво"!* *Фота У. Казлова.*

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З БЕЛАРУСІ

## Бакал беларускага шампанскага

Бахус, бог вінаробства, сядаючы за святочны беларускі стол, думаецца, быў бы задаволены: тут і віно, і піва, і „Бальзам беларускі", і знакамітыя „Белавежская водка" і „Зуброўка" ў своеасаблівых бутэльках-квартах. А нядаўна стол аздобіла шампанскае — таксама сваё, „дамарослае".

Больш за 5 мільёнаў бутэлек гэтага „боскага", „урачыстага" пітва выпусціў у мінулым годзе Мінскі завод шампанскіх він — дваццаць сёмы па ліку, самы малады ў краіне. Яму ўсяго два гады, і працаўнікі яго таксама маладыя. 24 гады Валерыю Байко — начальніку аддзела шампанізацыі, нямнога болей 20-ці мае Вольга Слабадзянюк, якая ўзначальвае аддзел вінных матэрыялаў. Гэта асноўныя аддзелы на прадпрыемстве, у якіх віно рыхтуюць да ферментацыі, а потым яно праходзіць гэты працэс. Шампанскае — гэта сухое віно, а дакладней, сумесь некалькіх він — купаж, які прайшоў паўторную ферментацыю. У выніку ў ім збіраецца вуглекіслата, што дае віну шыпучасць, ірдзістасць — святочнасць.

Віно-сыравіна прывозіцца сюды з Малдавіі, Грузіі, Краснадарскага краю. І адтуль жа, з вінаградных краёў, паходзяць таксама спецыялісты па вырабу віна. Вольга Слабадзянюк закончыла вінаробчы факультэт Краснадарскага палітэхнічнага інстытута, Валерый Байко — Адэскі інстытут. А дырэктар завода Яўген Ермачонак і галоўны шампаніст Любоў Яшына прыехалі са Свярдлоўска, дзе працавалі на такім жа прадпрыемстве.

— Свярдлоўскае шампанскае і беларускае — якое смачнейшае? — пытаю паўжартам.

— Пра смак спрачаюцца — гэта ж мая прафесія, — таксама хітравата адказвае галоўны шампаніст. — Але хоць беларускае шампанскае яшчэ не мае канчаткова ўсталяванага „характару", яно мне падабаецца.

Праўда, на ўсесаюзнай дэгустацыі беларускае шампанскае ўжо атрымала прыхільныя водгукі. І цяпер яго стваральнікі працуюць над замацаваннем дадатных якасцей у яго „характары". А раз ён у стадыі станаўлення — гэта не простае заданне. Віно, аказваецца, можа капрызіць, можа нават хварэць пры нетактоўным з ім абыходжанні. Яно не пераносіць, напрыклад, сутыкнення з чорным металам. І паколькі метад шампанізацыі ў нас не бутэлечны, як на радзіме шампанскага — у французскай правінцыі Шампань, але рэзервуарны, то рэзервуары — вялізныя металічныя бакі — пакрываюцца эмаллю...

17 дзён працягваецца шампанізацыя, а ўвесь працэс, з падрыхтоўкай, — паўгода. Але ўрэшце віно гатова. Разліта ў бутэлькі. Астуджаны яго запал (даслоўна — зніжана тэмпература). На корак надзета ўціхамірваючая „ўздэчка", на рыльца — шыкоўнае маніста-эмблема. Яшчэ 5 дзён — кантрольны тэрмін — і „ўрачыстае пітво" падаецца ў падарожжа. На святочны стол беларусаў.

**Л. Карпіевіч**

## КОЛЬКІ ПАДПІСАК НА „НІВУ"

Пошта ў **Каралёвым Мосце** абслугоўвае дзесяць большых і меншых вёсак, між іншым Калодна, Залукі, Радунін, Сафіпаль, Каралёвы Мост, Пясчанікі, Даўнева, Пераходы і іншыя. Жыхары Каралёвага Мосту і навакольных вёсак маюць 40 падпісак на „Ніву". Найбольш даручае яе пісьманосец Людміла Матафей. Апрача таго, сяляне ахвотна чытаюць наступныя газеты і часопісы: „Гадоўля быдла" — 102 экземпляры, „Газета вспулчэсная" — 90, „Аграхімія" — 68 і „Грамада-Рольнік польскі" — 30 экземпляраў.

У раёне абслугоўвання пошты ў **Юшкавым Грудзе** 23 вёскі і вёсачкі. Газеты, пісьмы і розныя пасылкі дастаўляюць у іх чатыры лістаношы. „Ніву" найахвотней выпісваюць у Ціванюках, Юшкавым Грудзе, Баршчэве, Кухмах, Багнюках, Рудні, Бяндзюзе, Рыбаках, Аднозе, Тайніцы Дольнай, Бандарах і Боўтрыках. Найбольш маюць падпісак пісьманосцы Мікалай Крупіцкі, Уладзіслаў Каліноўскі і Канстанцін Нос. Усіх разам падпісак на „Ніву" 75. Мы на чацвертым месцы. Найбольш падпісчыкаў маюць газеты і часопісы: „Гадоўля быдла" — 325, „Газета вспулчэсна" — 188 і „Грамада-Рольнік польскі" — 99. Жаночы тыднёвік „Пшыяцюлка" выпісвае 21 асоба.

У акрузе Каралёвага Мосту і Юшкавага Груда ёсць яшчэ вёскі, жыхары якіх не робяць падпіскі на беларускі тыднёвік. Пісьманосцы з Юшкавага Груда ахвотна даручалі б „Ніву" таксама ў Калясное, Супруны і Тайніцу Гурную і крыху больш у Гарбары, Сахаркі, Мацейкаву Гару, Круглы Лясок, Сушчу, Бахуры і Плянты. **(яц)**




**II пленум ГП БГКТ ● Сустрэча ● Новыя вершы Максіма Танка ● Сакрэт Страдывары ● Бібліяграфічны куточак ● Дрэвы ў народным вераванні ● Гародчык цёткі Мальвіны ● Восень у запісках натураліста ● Пад сцягам батальёна ● З расказаў дзеда Раманчука ● Весткі з Ласінкі, Бельска, Крываціч, Пасынак, Чаромхі, Тапаркоў ● Калі сніцца гітара ● Голас Кустусёвай жонкі ● Песня „Najwięcej witaminy mają polskie dziewczyny".**




**Niedziela 12 X** — 6.20 TTR. Uprawa rośl. sem. III. 6.50 Mech. rol. sem. III. 7.20 Nasze spotkania. 7.40 Now. w domu i zagr. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.25 Telewizjada. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 Wojsk. pr. rozr. 11.10 Pr. wojsk. 11.45 Uroczysta Odprawa Wart. 12.35 Dziennik. 12.55 Rolnicze rozmowy. 13.25 Dla dzieci. 13.50 Koncert Życzeń. 14.35 Los. dużego lot. 14.50 Tylko w niedzielę.

**Poniedziałek 13 X** — 13.30 RTSŚ — J. pol. sem. I. 14.00 Chem. sem. I. 15.30 NURT — psych. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Zwierzyniec. 16.55 Poradnia zdrowego człowieka. 17.15 Polskie drogi odc. VII. pt. „Lekcja poloneza". 18.50 Dobranoc. 19.00 Radzimy rolnikom. 19.10 Echa stadionów. 19.30 Dziennik. 20.10 Teatr tel. Georgi Dżagarow „Ta nasza mała ziemia". 21.30 Publ. międzynar. 22.10 Dziennik. 22.25 Śledztwo zostało wznowione cz. I. 22.25 Kronika Konkursu Chopinowskiego. 23.00 Dziennik.

**Wtorek 14 X** — 6.00 RTSŚ — J. pol. sem. I. 6.30 TTR — Chem. sem. I. 11.00 Dla szkół — J. pol. kl. III lic. 13.30 TTR RTSŚ — J. pol. sem. III. 14.00 Fiz. sem. III. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Klub seniora. 16.55 Skojarzenia. 17.15 Dom i my. 17.35 Telewizja Młodych. 18.25 Królik Bugs przedstawia. 18.50 Dobranoc. 19.00 Camerata. 19.30 Dziennik. 20.10 Przyjęcie na 10 osób plus trzy — satyra obycz. 21.10 Pr. publ. 21.50 I Liga hokeja na lodzie. 22.30 Dziennik.

**Środa 15 X** — 6.00 TTR, RTSŚ — J. pol. sem. III. 8.10 Dla szkół — Chem. kl. VIII. 9.00 Fiz. kl. VI. 11.00 Muz. kl. I. 13.30 TTR, RTSŚ — Mat. sem. I. 14.00 Biolog. sem. I. 15.20 NURT — Mat. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Michałki. 16.55 Dzień dobry w kręgu rodziny. 17.20 Tele gol. 17.45 Los. małego i express lotka. 18.00 Klub dobrej książki. 18.25 Skarbiec. 18.50 Dobranoc. 19.00 Camerata. 19.30 Dziennik. 20.10 Aktorzy prowincjonalni — film fab. pol. 22.00 Trybuna literacka. 22.30 Dziennik. 22.45 Kronika Konkursu Chopinowskiego.

**Czwartek 16 X** — 6.00 TTR, RTSŚ Mat. sem. I. 6.30 Biolog. sem. I. 8.10 Dla szkół — Przysp. obr. kl. VIII, I lic. 12.50 J. pol. kl. II—IV lic. 13.30 TTR, RTSŚ Mat. sem. III. 14.00 Biolog. sem. III. 15.20 Pr. dnia. 15.25 Decyzje piętnastolatków. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Czwartek TDC. 17.30 Magazyn motor. 18.00 Poligon. 18.25 Turniej reporterów. 18.50 Dobranoc. 19.00 Sonda. 19.30 Dziennik. 20.10 Z serii: Szeryf McCloud „Apartament w ekskluzywnym hotelu" — ameryk. film krym. 21.25 Pegaz. 22.15 Dziennik. 22.30 Kronika Konkursu Chopinowskiego.

**Piątek 17 X** — 6.00 TTR, RTSŚ — Mat. sem. III. 6.30 Biolog. sem. III. 8.10 Dla szkół — Geogr. kl. VII. 11.00 Wokół nas kl. I. 12.50 Geogr. kl. VIII. 13.30 TTR — Uprawa rośl. sem. I. 14.00 Mech. rol. sem. I. 14.30 Red. szkol. zap. 15.20 NURT — ped. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Dla dzieci. 16.55 Dzień dobry w kręgu rodziny. 17.20 Rodzina Połanieckich (IV) — Narzeczeni. 18.40 Radzimy rolnikom. 18.50 Dobranoc. 19.00 Camerata. 19.30 Dziennik. 20.10 Pr. rozr. z udziałem popularnych art. warsz. 21.05 Pr. publ. 22.05 Kronika Konkursu Chopinowskiego. 22.50 Dziennik.

**Sobota 18 X** — 6.00 TTR — Upr. roślin sem. I. 6.30 Mech. rol. sem. I. 13.30 Uprawa rośl. sem. III. 14.00 Hod. zwierz. sem. III. 15.25 Pr. dnia. 15.30 Wojsk pr. hist. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Sezam. 17.00 Telewizja Młodych. 17.30 Świat, który nie może zaginąć. 17.55 I liga piłki nożnej. 18.50 Dobranoc. 19.00 Estrada folkloru. 19.30 Dziennik. 20.10 Do krwi ostatniej cz. I — film fab. 21.15 Blisko i daleko. 21.45 Kronika Konkursu Chopinowskiego. 22.05 Dziennik. 22.20 Kabaret — Dudek. (ur.)




**Piątek 10 X** — 7.35 Klub podróży. 17.45 Film fab. 19.35 Pr. rozr. 20.55 Przegląd piłkarski.

**Sobota 11 X** — 11.00 Hokej. Dynamo (Moskwa) — CSKA. 16.10 Filmy anim. 16.40 Nie do wiary. 17.45 Film fab.

**Niedziela 12 X** — 7.05 Koncert chóralny. 12.00 Film fab. 14.40 Klub podróży. 15.40 Filmy anim. 16.00 Panorama międzynar. 17.05 Koncert. 19.35 Pr. estrad.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота 12.05 — 12.25 (UKF).**




**Białowieża** Barocco — fr. 14—15. Autostopowicz — czes. 18—19.

**Bielsk Podlaski** Pojedynek — ang. 13—14. Chiński syndrom — USA 15—17. Dzień Wisły — pol. 18—19.

**Czeremcha** Nikoleodeon — ang. 14—15. Halo Taxi — NRD 18—19.

**Czyże** 56 godzin na wagarach — czes. Szczególny dzień — wł. 15—19.

**Hajnówka** Rewolwer — wł. 13—14. Idealna para — USA 15—16. Corleone — wł. 17—19.

**Gródek** Dzień szarańczy — fr. 18—19.

**Michałowo** Jesienna sonata — USA 14—15. Nashville — USA 16—17. Trup w każdej szafie — czes. 18—19.

**Mielnik** Mroczny przedmiot pożądania — fr. 15. Miłość szesnastolatków — NRD 18—19.

**Milejczyce** Do siego roku — węg. Prywatne piekło — USA 15—19.

**Narew** Dora nadaje — węg. Chłopiec z burzy — austr. 15—19.

**Narewka** Porażenie prądem — węg. Anno Domini — jug. 15—19.

**Nurzec** Proszę słonia — pol. 14—15. Doktor Poenaru — rum. 16—17. Rewolwer — wł. 18—19.

**Orla** Ojciec królowej — pol. Krótki sezon — wł. 16—19.

**Rajsk** Ostatni bal w Różnowie — czes. Rocky — USA 15—19.

## Этнаграфічная закенца



Аздабленне хаты Андрэя Шаховіча з Сакой.
Фота Я. Целушэцкага.

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

### САЛДАЦКАЯ




*Е ў полю вэрба, под ею вода.*
*Молодая московочка*) водыцю брала,*
*молодая московочка водыцю брала.*
*І воду брала — рэвне плакала,*
*і на долю нарыэкала, што злая была,*
*і на долю нарыэкала, што злая была.*
*— Напышу пысьмо аж до мылого.*
*напышу пысьмо слезамы,*
*пушчу з буйныйі віетрамы аж до мылого.*
*Віетры, ліететэ, пысьмо нэсіэтэ,*
*накажыэтэ мыленькому, як мыла жывэ,*
*накажэтэ мыленькому, як мыла жывэ.*
*Мылы на войніе на сывуом коніе,*
*быстра пуля попадае —*
*вон головоньку склоняе до сырой зэмліе,*
*быстра пуля попадае —*
*вон головоньку склоняе до сырой зэмліе.*
*Сырая зэмля тяжко налягла,*
*рыжы пысок засыпае, трава-мурава,*
*рыжы пысок засыпае, трава-мурава.*
*А тые травы ны косят, ны жнут —*
*молодоі московочкі замуж ны бырут,*
*молодоі московочкі замуж ны бырут.*

*) „московочка" — нарачоная або жонка салдата.

Ад Юстыны Галко, 1894 г. нараджэння, вёска Тафілаўцы гм. Дубічы Царкоўныя, запісаў 2 жніўня 1980 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.

## Куток практычных ведаў




### У КЛЕТКУ

Ці ведаеце, што сёння наймаднейшае? Матэрыял у клетку! Шыюць з яго ўсё: сукенкі, спадніцы, штаны, курткі, паліто, пелерыны. Адна пры гэтым умова: клетка павінна быць арыгінальная, з цікавым спалучэннем колераў, а найважнейшае: матэрыял у клетку павінен гарманізаваць з рэштай вопраткі! Найлепш было б, калі б, напрыклад, гладкі матэрыял быў колеру адной з клетак.

Дзецям мы здаўна шыем розныя рэчы з матэрыялу ў клетку. Ён і прыгожы, і практычны, асабліва, калі ён цямнейшы. На сённяшнім здымку мы паказваем куртачку для хлопца гадоў пятнаццаці. Яна на штучным беленькім футры. Шапачка вельмі падыходзіць да курткі, яна таксама з гэтых жа матэрыялаў.

Сяброўка



## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, мне 19 год, я вучуся ў апошнім класе ліцэя. Сям'я наша — гэта тата, мама і я. Жывем мы ў горадзе. Кватэру добрую маем, я маю свой асобны пакой. Мама і тата працуюць, апранаюся я не горш за іншых дзяўчат. Але ў нашай хаце бракуе спакою. Бацька мой любіць выпіць. І калі ўжо паспрабуе гарэлкі, дык меркі няма. Заліваецца проста да непрытомнасці, часам аж дзіўна, як дадому дойдзе, бо пераступіўшы парог так і валіцца на падлогу. Тады валачэм мы яго з мамай на ложак і тады зараз жа ён засынае. Але горш, калі прыйдзе выпіўшы так, што яшчэ на нагах трымаецца. Тады ўжо няма яму сну да позняй ночы і нам таксама. Чапляецца да мамы, абзывае яе. Я заступаюся за маму, тады і на мяне сыплецца град усялякіх гадкіх слоў. Калі бацька цвярозы, мама не папракае яго за тое, што па-п'янаму натварыў. Яна шчаслівая, што спакойна ў хаце. Бацька тады і справы афармляе, і ў хатняй працы памагае. Але я не магу так хутка „травіць" таго ўсяго, што чуўпе ён па-п'янаму. Часам крыва на яго гляну, буркну ці не паслухаю, калі штосьці загадае зрабіць. Гэта мне хочацца адпомсціць за крыўду. Я ведаю, што бацька кахае мяне, нічога мне не шкадуе. І мае жаль да мяне, што я кепска адношуся да яго, не маю да яго пашаны. Я сама разумею, што дзеці павінны бацькоў шанаваць, але не магу шанаваць бацьку, калі ён не шануе мамы. Па-мойму, пашана павінна быць узаемная. Праўда, Сэрцайка?

Аня з Беластока

**Аня!** Ты бунтуешся супраць паводзін бацькі. Мама не сварыцца, дык бацька штораз паўтарае тое ж. Гэта таксама нядобра. Якраз калі ён цвярозы, трэба яму напомніць, што рабіў п'яны. Станоўча дамагацца, каб пакінуў гарэлку. Калі яму цяжка, бо відаць ён ужо ад яе залежны, дык каб пайшоў лячыцца. Такія яго ўчынкі руйнуюць і тваё і маміна здароўе.

А можа хто з чытачоў захоча выказаць свае думкі ў гэтай балючай справе? Просім.

Сэрцайка

## РЫБА ЛЕЙТЭНАНТА ЕСЬКОВА

(Працяг са стар. 5)

ма, як лейтэнант Еськоў вяртаўся назад у дот. Ішоў вясковай вуліцай, нёс у руках радыё, якое знайшоў у машыне, нямецкі аўтамат і бліскучую каску гэтага маёра. І мы вярнуліся ў вёску. Спыніліся ля школы. А лейтэнант ад хвалявання аж цэлы пачырванеў. *„Цяпер і мне загінуць ужо не шкода будзе, — сказаў ён. — Добрую рыбу ўдалося злавіць!"*

І разам з салдатамі пайшлі яны ў лес, у бок надбужнай даліны, дзе знаходзіліся іх доты.

У час гэтай перастрэлкі адна з куль трапіла ў каня **Мікалая Кічкі**. Конь паваліўся і ляжаў, лоб паклаўшы сумна на траву. Гаспадар пашкадаваў сваю верную жывіну. Калі лейтэнант Еськоў адышоў са сваімі трафеямі, Мікалай Кічка, хаваючыся ў жыце, пабег ратаваць свайго коніка. Конь, аднак, сам падняўся на ногі і накіраваўся ў сваю сялібу. Тады дзядзька Мікалай звярнуў увагу на нямецкую машыну. Ён крыху ведаў нямецкую мову, бо ў час першай сусветнай вайны трапіў у палон. Хаваючыся ў жыце, наблізіўся да аўтамабіля. Нямецкі шафёр таксама ўцешыўся, што ўбачыў цывільнага чалавека. Пачаў прасіць дапамогі, каб нехак даставіць яго за Буг, або і тут, на месцы, недзе схаваць. Кічка паабяцаў яму, што дапаможа, і пайшоў у вёску, каб параіцца з суседзямі. *„Трэба ж памагчы, — гаварыў ён сялянам. — То ж вельмі мучыцца чалавек, церпіць."*

І параіў яшчэ, каб узяць з сабою нейкую плахту, пры дапамозе якой шмат лягчэй будзе несці гэтага параненага немца.

Найбліжэй месца гэтага здарэння знаходзіўся дот „Безымянны" пад камандаваннем малодшага лейтэнанта, які толькі што папярэдняга дня прыбыў на граніцу з афіцэрскай школы. На жаль, яго прозвішча не ўдалося мне ўстанавіць. Напэўна, аднак, не быў гэта малодшы лейтэнант **Аляксандр Васільевіч Еськоў**, бо ён камандаваў іншым дотам...

А за першым узгоркам, на Слохаўскіх хутарах, бліжэй вёскі Крупіцы, знаходзілася ўжо гітлераўскае войска. На даху хаты **Гуменяка** наладзілі яны сабе назіральны пункт і з гэтай вышыні сачылі ў біноклъ за ўсім, што тварылася ў прыгранічнай зоне. Сядзелі аднак ціха.

— Ведаеце, што я вам скажу? — звярнуўся да мяне Аляксандр Лучко. — Скажу вам па шчырасці, што я чалавек веруючы. Я глыбока перакананы ў тым, што гэта сіла божая натхніла нашых сялян, каб пайшлі і ратавалі гэтага нямецкага шафёра. Каб яны гэтага не зрабілі, то больш як сорак нашых слохаўскіх жыхароў аддало б свае жыццё...

Мікалай Кічка разам з іншымі слохаўскімі сялянамі дабраліся да параненага немца. Паклалі яго на плахту і занеслі ў школу...

Жонка іншага Кічкі, Аляксея, таксама ў час першай сусветнай вайны навучылася крыху нямецкай мове. Паслалі за ёю. Аляксеіха зрабіла немцу перавязку, напаіла яго малаком, падавала ваду...

— І гэта вы таксама асабіста бачылі? — пацікавіўся я.

— Не, гэтага я ўжо сам не бачыў, — шчыра прызнацца селянін. — Але іншыя бачылі і пазней расказвалі, столькі раз паўтаралі ў нас гэтую гісторыю пры кожнай нагодзе, што мне здаецца, быццам бы я сам яе перажыў...

Немцы чулі страляніну ў Слохах. Праз бінокль, аднак, мала што маглі ўбачыць. Шукалі спосабу, каб даведацца, што там у вёсцы чуўпецца. Гэта быў іх цвёрды арэх. Яны ведалі, што з ваеннага пункту гледжання вёска добра падрыхтавана да абароны. Праўда, доты яшчэ не цалкам гатовыя, але ўжо абсаджаны баявымі ўзводамі і гатовы сустрэць смяротным агнём кожнага, хто з варожымі намерамі наблізіцца да іх. Гітлераўскія афіцэры ведалі аб гэтым і вялі сябе вельмі асцярожна. Пайшлі на хітрасць.

Па-суседску з Гуменяком, але ў даліне, бліжэй ад Слох, жылі на хутары Гаўрылюкі. У іх быў сын Езік, яшчэ падлётак. Гітлераўцы, сярод якіх адзін даволі добра гаварыў па-польску, прымусілі гэтага Езіка, каб пайшоў у Слохі і разведаў, што там здарылася.

— А калі ты гэтага для нас не зробіш, — пагразіў хлопцу немец, што гаварыў па-польску, — і хутка назад не вернешся, то мы спалім вашу хату і расстраляем тваіх бацькоў.

Расплакаўся бедны Езік і паімчаўся ў Слохі, дзе яго ўсе добра ведалі. Расказаў шчыра, з чым і чаму ён прыйшоў ды што чакае яго бацькоў.

— Ідзі ты, Езік, — параіў яму Мікалай Кічка, — і скажы немцам, што шафёр жыве. Мы заапекаваліся ім. Ён ляжыць у школе. Трэба яго як найхутчэй ад нас забраць. Траціць туды вельмі лёгка, бо школа вялікая, высокая і зараз з таго канца вёскі, дзе і ваш хутар...

Езіку не трэба было гэтага паўтараць. Ён сам да ўчарашняга дня яшчэ вучыўся ў гэтай школе... Гнаны трывогай за лёс сваіх бацькоў, паімчаўся ён без аглядкі на свой хутар. А што з таго выйшла — ужо іншым разам. Сёння яшчэ толькі скажу, што Язэпа Гаўрылюка, на жаль, няма ўжо сярод жывых і ён асабіста не пацвердзіць і не запярэчыць усяму таму, аб чым я даведаўся ад Аляксандра Лучко і ад іншых жыхароў вёсак Слохі і Турна.

Віктар Рудчык

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Я нядаўна стала на работу. І сніцца мне, што мая кіраўнічка і яшчэ некалькі асоб маюць ляцець у Космас. Мы ўсе вельмі задаволены, што гэта з нашага прадпрыемства ляцяць у Космас. Але, на жаль, палёт не ўдаўся. І яны мусілі вярнуцца назад. Што гэта такое? Я маладая, незамужняя.

Аля

**Аля**, ой як часы змяніліся! Калісь то сніліся жураўлі, што ляцелі ў вырай, а сёння сніцца нам ужо не лёт птахаў, а чысты Космас! І ўжо ў сувязі з гэтым сон твой можна інтэрпрэтаваць дваяка. Бо падумай сама: каб табе прысніўся лёт над зямлёй нібы птушкі, абазначала б гэта нешта добрае, радаснае. Космас жа пакуль што не ўяўляецца нам як нейкая радасная, светлая падзея. Таму, здаецца, што нешта непрыемнае чакала тваю кіраўнічку і яшчэ некалькі асоб з прадпрыемства. А паколькі палёт не ўдаўся і яны вярнуліся назад на Зямлю, трэба спадзявацца, што тыя непрыемнасці, якія ім рыхтаваліся, пройдуць міма.

Астрон

